# ПРЫВІТАНЬНІ СТАРШЫНІ РАДЫ Б.Н.Р. на 13-й Сустрэчы Б.П.А.



Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі вітаю Вас з Шэсьцьдзесяці-гадовым юбілеем абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Для ўтварэньня дзяржавы неабходна мець тры складнікі: народ, тэрыторыю й волю народу на будаваньне сваей незалежнай дзяржавы. БНР мела ня толькі гэтыя тры складнікі, але й абапірала сваю дзяржаўнасьць на дэмакратычных прынцыпах свабоды й роўнасьці ўсіх грамадзян ды на свабодзе слова й свабодзе сумленьня. Сьведчаць аб гэтым прабег 1-га Ўсебеларускага Кангрэсу й тры ўстаўныя граматы Рады БНР.

Гэтыя складнікі й прынцыпы й сяньня згодны з духам часу й нашымі жаданьнямі, але яны перакрэсьлівалі й будуць перакрэсьліваць далей імпэр'ялістычныя пляны расейскай дыктатуры пралетарыяту й шавіністычнай Польшчы. І хоць гэтыя імпэр'ялісты ў 1921 годзе падзялілі Беларусь між сабой – Рада БНР і йдэя БНР засталіся пагрозьлівымі для іх надалей.

Як бы там ня было, шэсьць дзяржаваў прызнала БНР. Рада й Урад БНР былі дзейнымі ў Коўне, у Празе й Бэрліне. Беларусы пад Польшчай падтрымлівалі БНР, а патаемна падтрымлівалі БНР і Беларусы пад Саветамі.

Для бальшавіцкай Масквы Беларусь гэта мост у Заходнюю Эўропу, асабліваж у яе кроках да сусьветнай рэвалюцыі. І таму бальшавіком пажадана зьнішчыць беларускую незалежную дэмакратычную дзяржаўнасьць ня толькі ў існаваньні, але нават у тэорыі ці ідэі.

Хоць у сваей прапагандзе Масква цьвердзіла, што эміграцкая БНР ня мае ніякага значэньня – у сапраўднасьці баялася дзейнасьці й уплываў Рады й Ураду БНР і за ўсякую цану пастанавіла зьнішчыць іх, нават цаной уступак Беларусам у БССР.

Вось чаму ў пачатку 20-ых гадоў было абвешчана на ўвесь сьвет, што толькі ў БССР будуецца „Беларускі Дом" і што – ў пашыраных тады межах – БССР ёсьць адзінай сапраўднай беларускай дзяржавай. І тадыж пачалася сапраўдная беларусізацыя БССР. Паміма прапаганды – такія відавочныя факты, як пашырэньне межаў БССР і беларусізацыя яе – былі моцнымі аргумэнтамі за прызнаньне БССР беларускай дзяржавай.

*Але ў сапраўднасьці гэта будаваньне „Беларускага Дому"*, як пабачым далей, *аказалася пасткай для зьнішчэньня беларускага вызвольнага руху, а перад усім беларускага нацыянальнага актыву, што ачольваў гэты рух.*

Усё гэта рабілася згодна з бальшавіцкай дыялектыкай і тактыкай „крок наперад, два назад." Тадыж пачалася ўзмоцненая кампанія за ліквідацыю Рады й Ураду БНР на эміграцыі. Праводзілася настырная прапаганда, каб сябры Рады й Ураду БНР ды й іншыя беларускія эмігранты, уключна са студэнтамі, ня трацілі на пуста час і энэргію, а зьмянялі палітычныя вехі ды ехалі ў БССР будаваць „Беларускі Дом", які чакае на іх так патрэбныя культурныя сілы. Паміж 1923 і 25 годам у Прагу быў высланы Янка Купала, а ў Бэрлін Цішка Гартны, каб намовіць сваіх калішніх сяброў – Крэчэўскага, Захарку, Цьвікевіча й Пракулевіча на ліквідацыю Рады й Ураду БНР і да павароту іх у Менск.

Прапаганда гэта мела нязначныя вынікі. Толькі Цьвікевіч, Пракулевіч і Заяц паехалі з Прагі ў Бэрлін на скліканую там прадстаўнікамі БССР канфэрэнцыю ў кастрычніку 1925 г., склаўшы перад выездам дымісіі з займаных імі становішчаў Прэзыдэнту Крэчэўскаму. Дзеля цікавасьці паехала з імі й некалькі студэнтаў з Прагі. Там былыя міністры прызналі БССР і паехалі ў Менск.

Што сталася з імі далей – нам ведама: праз пару гадоў яны былі замучаны ў бальшавіцкіх катоўнях. У міжчасе ж урад БССР абвесьціў на ўвесь сьвет, што Рада й Урад БНР ліквідаваліся й больш ня існуюць. Падае гэта й бальшавіцкая Бел. Сав. Энцыкпляпэдыя (т.2,б.227).

*Але гэта была самая безсаромная бальшавіцкая ілжа.* Тры сябры ніяк не маглі ліквідаваць ані Ўраду, ані тым больш Раду БНР (Ластоўскі выехаў з Коўна ў Менск незалежна ад іх на цэлы год пазьней). У Празе засталіся Прэз. Крэчэўскі, заступнік ягоны Захарка, сакратар сельскай гаспадаркі Т. Грыб, прадстаўнік БНР на Чэхаславакію М. Вяршынін, лідары беларускіх эсэраў Я. Мамонька й П. Бадунова, В. Русак, Ермачэнка, Шышкоўскі. Усе яны былі раднымі БНР, як і група старэйшых студэнтаў з Я. Станкевічам і І. Дварчанінам на чале. Дык было кім папоўніць сакратарыят і ён, як і Рада БНР былі чыннымі, аж пакуль гітлероўцы занялі Прагу. Па сьмерці Прэз. Крэчэўскага яго месца заняў Прэз. Захарка.

Нават калі б усе сябры сакратарыяту паехалі ў БССР і тады б не перасталі існаваць Рада БНР і сакратарыят, пакуль быў Старшыня Рады й была група радных, якімі можна было папоўніць сакратарыят.

Мы жывём у дэмакратычным сьвеце й ведаем, што калі нават увесь урад краіны адыходзіць – на ягонае месца галава дзяржавы паклікае новы ўрад. Дык бальшавіцкая ілжа ўвайшла ў канфлікт з прынцыпамі дэмакратычнага ладу.

У падобнай сытуацыі як Рада БНР знаходзяцца Украінская Нац. Рада, польскі ўрад і рада ў Лёндане й іншыя ўрады паняволеных народаў. Таму трэба дзівіцца, што на Эміграцыі знайшлася група беларусаў, якая ўпорыста паўтарае бальшавіцкую ілжу, што Рада БНР ня існуе, што яна зьліквідавалася.

Разам з прапагандай аб ліквідацыі БНР і цьверджаньнем што беларуская незалежніцкая дзейнасьць звонку ім ужо не пагражае, бальшавікі пачалі вострае змаганьне з усім тым, што магло спрычыніцца да незалежнай беларускай дзяржаўнасьці ў межах БССР. У 1929 г. пачалі пагром г.зв. „нацдэмаўшчыны". На працягу доўгага часу праводзілі масавыя арышты беларускай інтэлігенцыі й сялян, ачышчалі з беларускага нацыянальнага духу школьніцтва й менскі унівэрсытэт, нішчылі беларускую культуру й дзеячоў яе. Нават грамадаўскія паслы ў польскі сойм і сябры КПЗБ, што пашлі ў БССР з Заходняй Беларусі, былі зьнішчаны.

І тут, як згаварыўшыся, Польшча дапамагала бальшавіком у зьнішчаньні беларускай інтэлігенцыі. Польскі ўрад ствараў для яе немагчымыя жыцьцёвыя варункі ў Заходняй Беларусі, дык тая шукала выхаду з цяжкой сытуацыі ў Саветах. А там, замест лепшай сытуацыі, трапляла ў савецкія лягеры сьмерці. Пераканаўшыся-ж, што ніхто не станавіцца ў абарону Беларусаў, польскія ўлады пазачынялі ўсе беларускія школы й арганізацыі ды стэрарызавалі ўсякую беларускую нацыянальную дзейнасьць.

А ў часе апошняй вайны, палякі – былыя ўрадаўцы ў Заходняй Беларусі – паддабраліся немцам, каб трапіць у паліцыю ці нямецкія акупацыйныя установы, дзе рабілі даносы на беларусаў што яны камуністы, каб немцы іх зьнішчалі й зачынялі беларускія школы й арганізацыі.

Як было пад нямецкай акупацыяй вы ведаеце лепш за мяне. Добра што была БЦР і дбала пра ўсё беларускае й рабіла што магла. Але БЦР была толькі адміністрацыйнай інстытуцыяй падпарадкаванай нянямецкай вайсковай ўладзе, а не дзяржаўным ворганам. І паклікана БЦР была пры канцы 1943 году, калі ў Немцаў ня было ўжо ніякай надзеі на перамогу.

Беларусы ў часе апошняй вайны працэнтова панесьлі найбольшыя страты ў людзях і маёмасьці, як усе іншыя народы. Спрычыніліся да гэтага: геапалітычнае палажэньне Беларусі, нямецкая палітыка тварэньня „лебэнсраўму", вынішчэньне Беларусаў бальшавікамі, але й наша слабая арганізаванасьць.

З усягo вышэй сказанага бачым, што цяжкія, вельмі цяжкія шэсьцьдзесят год мела Беларуская Народная Рэспубліка. Хоць змаганьне за яе вызваленьне – у тэй ці іншай форме, у тым ці іншым часе й месцы ня спынялася й мы маглі навучыцца як трэба вясьці гэта змаганьне – *галоўнае наша заданьне наперадзе.*

Пацяшаючым ўсё ж ёсьць тое, што вольны дэмакратычны сьвет лепш пазнаў і адчуў пагрозу бальшавізму ўсяму сьвету, дык змушаны будзе мацней супрацьставіцца гэтай пагрозе й мы знойдзем у яго лепшае зразуменьне й падтрыманьне ў нашай справе, якая сталася ўжо міжнароднай і мусіць завяршыцца поўным вызваленьнем Беларусі.

Жыве Вольная, Незалежная й Непадзельная Беларуская Народная Рэспубліка!

*Др. В. Жук-Грышкевіч*
*Старшыня Рады БНР*

# НАСТАЧКА

*(працяг з 4-й бачынкі)*

сварыцца на мяне... і ў нас стане весела.

Настачка пастанавіла... і ад таго вечара яе нібы падмянілі. Выявілася, што яна вельмі гаваркая. Яна апавядала пра сваю маму, пра брата, пра старажытны, абнесены каменнаю сьцяною Амбэрг, сьпявала беларускія й нямецкія песьні, прыводзіла пагуляць у пакой сяброўак. Адным словам, клапацілася, рабіла ўсё мажлівае, каб у іх ня было так сумна.

Марына вярнулася ў гімназію выкладаць ангельскую мову. Настачка сталася ейнай вучаніцаю. Здольная, яна вырашыла, што для Марыны можа лекцыяў не адрабляць, бо яны цяпер свае. Атрымала двойку. Такой бязьлітаснасьці да сябе Настачка не чакала. Зьдзіўлена й абурана зазіхацелі ейныя вочы. У крыўдзе сьціснуліся вусны. Да канца лекцыі ангельскае мовы яна сядзела змрочная й натапыраная. З гімназіі пайшла дадому сама.

Як толькі Марына адчыніла дзьверы свайго пакою, Настачка спаткала яе аглушальным выцьцём.

– Вы, вы, мая другая мама, паставілі мне двойку?– выкрыквала яна са сьлязамі свой жаль і папрок.

Так умела дакараць маці й Алеська.

– Сямейная сцэна,– сказала Марына.

Настачка змоўкла й паглядзела на яе заскочана. Запыталася ціха:

– Што значыць сямейная сцэна?

– Калі дзіця без падставы й патрэбы падымае галас у хаце.

– Вы паставілі мне двойку,– усхліпнула яна ізноў, але цяпер значна цішэй.

– Добра,– сказала Марына,– пасьля абеду мы папрацуем з табою над заданьнем, і наступным разам ты атрымаеш пяцёрку.

– Дапаможаце мне? Абяцаецеся?– узрадавалася, забылася на сьлёзы малая. Узьнялася на дыбачкі, абняла за шыю Марыну, прытулілася да яе, цмокнула ў вусны.

У тую ноч Марына падыйшла да вакна, глядзела ў высокае зорнае неба, першы раз пасьля сьмерці Алеські малілася:

– Дзякую Табе, Божа, што Ты прыслаў да мяне Настачку.

# 400-ГОДЗЬДЗЕ ВІЛЕНСКАГА ЎНІВЭРСЫТЭТУ 1578-1978

*(працяг з 5-й бачынкі)*

*Марцін Начабут-Адляніцкі* нар. 1728 г. у в. Саломянка каля Індуры, Горадзенскага павету. Вучыўся ў Горадзенскай Калегіі й Віленскай Акадэміі, а пасьля спэцыялізаваўся заграніцай у матэматыцы ды астраноміі. Вярнуўшыся на Бацькаўшчыну пераняў Віленскую астранамічную абсэрваторыю, існуючую ад 1753 г. Ягоныя астранамічныя працы прынясьлі яму эўрапэйскую славу. У 1780 г. Пачобут стаўся рэктарам Віленскай Акадэміі. Памёр у 1810 г. (Сьнядэцкі, Жыцьцё Пачобута, Вільня, 1810).

*Давід Пільхоўскі* нар. 1735 г. у Рутнішках каля Аўгустова. Скончыў Віленскую Акадэмію, а пасьля быў прафэсарам у Шляхоцкім Канвікце. Пасьля скасаваньня езуітаў быў прафэсарам літаратуры ў Галоўнай Літоўскай (чыт. Беларускай) Школе. У гадох 1780—1787 быў візытатарам беларускага (літоўскага) школьніцтва. Выдаў многа выдатных працаў (Кур'ер Літоўск. №97, 1803).

*Тамаш Гусарэўскі,* нар. ў 1732 г. у Варшаве. Быў прафэсарам Віленскай Акадэміі ад 1780 г. ды палажыў асновы пад навейшую гістарычную школу. Лелявэль быў ягоным вучням. Памёр у 1807 г.

*Міхал Карповіч* найслаўнейшы красамоўца 18 ст. Нарадзіўся ў 1744 г. каля Берасьця. Вучыўся ў езуіцкай Калегіі ў Берасьці, пасьля ў Рыме. Пакліканы на катэдру тэалёгіі дагматычнай у Віленскай Акадэміі славіўся красамоўствам сваіх выкладаў ды прамовамі на зьездах шляхты ды на паседжаньнях Літоўскага Трыбуналу. Пасьля далучэньня гістарычнай Літвы, названай цяпер Беларусяй, да Расеі, пераехаў у Прусію, дзе быў япіскапам у Віргах. Памёр у 1805 г. Пакінуў па сабе слаўныя трыбунальскія й соймавыя казаньні („Пшыяцель люду", 1837, №22).

*Францісь Міліконт Нарвойш,* нар. 1742 г. на Беларусі, вучыўся ў Віленскай Акадэміі, дзе стаўся прафэсарам матэматыкі. Працаваў таксама інжынерам пры рэгуляцыі р. Нёмана, ды над картаграфіяй Беларусі. Памёр у Вільні ў 1819 г. (Дзеньнік Віленскі, 1820, III).

*Геранім Страйноўскі* нар. на Валыні ў Хадачкове ў 1752 г. Наведаў піярскія школы. У 1781 г. назначаны быў прафэсарам права й палітычнай эканомікі ў Віленскай Акадэміі. Ад 1799 г. быў рэктарам Акадэміі, пасьля Віленскім япіскапам. Памёр у 1815 г. Напісаў выдатную працу „Навука прыроднага права" (Рудоміна, Жывот Г. Стройновскего, Вільня 1839).

*Войцех Віюк Каяловіч,* прафэсар і рэктар Акадэміі, напісаў двутомную гісторыю Літвы (Беларусі) па лаціне й выдаў у Гданску (1650) ды ў Антвэрпене (1669). Праца гэтая пазьней была перакладзена на нямецкую мову, а выдавец яе Людвік Шлецер пісаў, што, „Каяловіч у 17 ст. быў адным зь першаклясных гісторыкаў у Эўропе".

Прыблізна сто гадоў пазьней (1758), як вынік разьвіцьця гістарычнай навукі паявіцца знамяніты навукова-апрацаваны твор *Мацея Дагеля* „Кодэкс Дыпляматычны Каралеўства Польскага й Вялікага Княства Літоўскага", друкаваны ў Вільні. У гэтым часе разьвілося таксама ў Беларусі часапісьменства, на чале якога паставіць можна „Вядомосьці Літэрацке", выдаваныя пры ўдзеле Віленскай Акадэміі.

Агулам пры ўдзеле Віленскай Акадэміі за час яе існаваньня апублікована было ў Вільні больш 500 навуковых і арыгінальных працаў у лацінскай мове. Некаторыя зь іх былі перакладзеныя на беларускую й польскую мовы.

* * *

Віленскай Акадэміі ў самай Вільні падлягалі наступныя навуковыя адзінкі:

а) Віленская акадэмічная Калегія, як падрыхтаваўчая школа да Акадэміі.

б) Бурсы (інтэрнаты) для мяшчанскай моладзі з фундацыяў: бп. Валерага Пратасэвіча з 1577 г., Хадкевіча з 1588 г., Войны з 1601 г.

в) Калегія папская а. Пасавіна ўсходня-славянскага абраду для 30 студэнтаў Беларусаў, заснаваная пры Баторым у 1581 г. Пасьля навуковыя фонды выкарыстоўвалі лацінскія клерыкі аж да 1751 г.

г) Духоўная сэмінарыя, заснаваная біскупам Віленскім Юрым Радзівілам у 1581 г.

д) Бурсы для беднай моладзі, што наведвалі Акадэмію, зарганізаваныя 1) канонікам Бэйнартам у 1602 г. і 2) Міколам Корсакам у 1618 г.

е) Конвікт для шляхоцкай моладзі, адчынены ў 1742 г. як асобная навуковая ўстанова з собскай навучальнай праграмай. Прафэсар матэматыкі й фізыкі, езуіт Тамаш Жаброўскі, меў тут габінэт фізычна-астранамічны.

ж) Акадэмічная друкарня, дар Радзівіла Сіроткі ў 1580 г., пасьля расшырана коштам Віленскага біскупа Белазора ў 1665 г. ды рэктарам Бразоўскім у 1756 г.

з) Акадэмічная бібліятэка, аб якой была гутарка раней.

Паза Вільняй сетка езуіцкіх школаў пакрывала так Заходнюю, як і Ўсходнюю Беларусь (гіст. Літву). На першае месца высоўваецца ПОЛАЦКАЯ КАЛЕГІЯ, заснаваная Баторым у 1581 г. Далей ідуць езуіцкія КАЛЕГІІ з рознымі праграмамі навучаньня. Да найважнейшых належалі:

1) *Калегія ў Несьвяжы,* заснованая кн. Радзівілам Сіроткай у 1582 г. ды разбудованая ў 1584 г. разам з усім местам аж да касьцёлам Цела Божага. Першым Рэктарам Калегіі быў Мраскоўскі, які кіраваў перш ніжэйшай школай, а пасьля ад 1587 г. гуманістыкай і рыторыкай. Катэдру філязофіі ўстанавіў рэктар Андрэй Люшкоўскі ў 1641 г. Апрача пачатковай, сярэдняй і вышэйшай школаў тут існаваў ад 1620 г. Конвікт для шляхоцкай моладзі ды бурса для сялянскай моладзі, утрымованая коштам Радзівіла. Студэнтаў налічвалася да 300 і больш.

У часе маскоўскага „патопу" у канцы верасьня насельніцтва Несьвіжа было выразанае казакамі, а школы спаленыя. Хутка аднак былі адбудаваныя, але ў 1706 г., у часе швэдскай вайны, Карль XII, узяўшы штурмам мястэчка, разбурыў яго ды апустошыў. Нанава езуіты пачалі навучаньне ў 1710 г. Місыйныя адзінкі езуітаў існавалі паза Несьвіжам у Малькавічах і Лахве.

2) *Калегія ў Горадні,* заснаваная ў 1585 г. Баторым ды забясьпечаная маёнткам Кундзін ды грашыма 30 000 зал. ня мела паводзін. Сьмерць Баторага перашкодзіла на адкрыцьцё Калегіі аж да 1622 г. Год перад гэтым Стараста Горадзенскі С. Касабудзкі запісаў Калегіі яшчэ вёску *Сухую Балю,* а ў 1647 тое-ж зрабіў Дальмант Ісакоўскі, запісаўшы маёнткі ў Сьвіслачы ды збудаваў там прыгожую сьвятыню ды сярэднюю школу. Сойм 1667 г. зацьвердзіў фундацыю Ісакоўскага, пабольшаную Крыштапам Халецкім запісам маёнткаў Гарастова й Каўбасін ды маёнткам езуіты Геранімa Дзевалтоўскага ў Шупенях. Такім чынам Калегія, як вышэйшая школа пачала працу ў 1664 г. пры езуіцкім Фарным касьцеле ў Горадні. У калегіі былі катэдры: рыторыкі (ад 1645), філязофіі (1710) і тэалёгіі (1762). Да Горадзенскай Калегіі належала публічная аптэка з фармацэўтным аддзелам, а таксама місыйныя школы ў Мэрэчы, Дубраве, Ваўкавыску й Котры, сярэдняя школа ў Сьвіслачы.

3) *Калегія ў Ломжы,* заснаваная ў 1614 г. Першым рэктарам быў Адам Калаземскі. Існавала тут толькі рыторыка й катэдра філязофскіх навукаў. Студэнтаў было да 250 чалавек. Місыйная школа была ў Мышынцы.

4) *Калегія ў Смаленску,* адчыненая ў 1621 г. дзейнічала да 1632 г., калі Смаленск у цяжкіх баёх паў пад маскоўскім штурмам. У 1634 г. Смаленск нанава быў вызвалены. Заняткі ў тым-жа горадзе былі ўзноўлены з рыторыкай і казуістыкай, а таксама аднавіліся катэдры філязофіі, матэматыкі й фізыкі. Лік студэнтаў дасягаў 700 чалавек. Маскоўская навала 1654 г. і заняцьце ёй Смаленска, палажылі канец Калегіі.

5) *Калегія ў Берасьці,* ад 1623 г. з сярэднімі навукамі. Катэдра Рыторыкі адчынена ў 1636 г. пры рэктары Рафале Янчынскім, філязофіі — у 1757 г. пры рэктары Міхасю Арлоўскім. Місыйныя школы былі ў Пружанах ды Кодзені.

6) *Калегія ў Навагрудку,* заснованая ў 1626 г. У 1655 г. у часе маскоўскай навалы Навагрудак быў спалены й разбураны, насельніцтва ў палавіне выразанае й вывезенае ў Маскоўшчыну. Рэктар Калегіі Рыгор Рафаловіч быў засечаны маскоўскай навалай, а праф. Андрэй Кавачынскі высланы з многім насельніцтвам у капальні сібірскія, адкуль пасьля 10 год вярнуўся калекай ды памёр у Несьвіжы ў 1667 г. У часе паўторнага маскоўскага заняцьця Навагрудка ў 1660 г. у Навагрудзкай Калегіі жылі расейскія ахвіцэры. Нанава пачала працу Навагрудзкая Калегія ў 1665 г. з пачатковымі школьнымі прадметамі, пасьля з паэтыкай і рыторыкай. Ад 1705 г. існаваў Конвікт Шляхоцкі з асобнай праграмай навучаньня, а ад 1714 г. Калегія сталася запраўды вышэйшай школай, бо адчынены былі катэдры філязафічных навукаў. У 1736 г. пачала выклады катэдра матэматыкі, а ў 1743 г. — фізыкі. У часе касацыі езуітаў у 1773 г. Калегія мела 40 студэнтаў.

7) *Калегія ў Пінску.* Была заснаваная ў 1638 г., цяжка пацярпеўшая разам з местам у часе маскоўскай навалы 1655—1657 г.г. аж да 1660 г. Адпружэньне прышло толькі ў 1675 г., калі Калегія пачала зноў ажыўленую дзейнасьць, асягнуўшы стан свайго росквіту ў 1710 г. Было тады ў Калегіі 10 прафэсараў ды тры катэдры: тэалёгіі, філязофіі й рыторыкі. Школы місыйныя знаходзіліся ў Лагішыне, Тэлеханах, і Стасанах, а ў Тураве ад 1631 г. была сярэдняя школа. У часе маскоўскай навалы тут быў замучаны выдатны прафэсар і місіянер — Андрэй Баболя (1657).

8) *Калегія ў Віцебску.* Заснаваная ў 1640 г., але ў часе „патопу" спаленая разам з Віцебскам. Пасьля міру ў 1667 г. школа ўзнавіла заняткі. У 1676 прыбыла рыторыка й бурса для сялянскай моладзі, ў 1682 г. — філязофія. Новы будынак над Дзьвінай збудаваў рэктар Калегіі Валянцін Гарманоўскі ў 1691 г. У 1697 г. пры Калегіі была адчыненая аптэка. У часе „паўночнай вайны" горад быў спалены (1708). Калегія была адбудована ў 1738 г. з катэдрамі філязофіі й маральнай тэалёгіі. У 1756 г. была адчынена сэмінарыя для беднай шляхты. Пажары ў 1757 і 1761 зьнішчылі школьныя будынкі, якія былі нанава адбудованыя ў 1765 г.

9) *Калегія ў Драгічыне* на беларускім Падлясьсі была заснованая ў 1661 г. Курс граматыкі — у 1667, паэтыкі — 1674, рыторыкі — 1683, у 1700 г. быў адчынены Конвікт для беднай шляхты. Катэдры філязофіі й тэалёгіі былі ўстаноўлены ў 1713 г.

10) *Калегія ў Менску* пачала сваю дзейнасьць у 1714 г. Навучаньне граматычных прадметаў пачалося раней, ад 1672. Сярэдняя школа з бурсай для беднай моладзі была адчыненая ў 1686 г. Поўны курс філязофіі пачаўся ў 1729 г. Школа місыйная існавала ў Блоні.

11) *Калегія ў Слуцку.* Пачатковая й сярэдняя школы былі заснованыя ў 1704 г. Філязофія й дапаможныя навукі — ў 1714 г.

Апрача гэтага існавалі пачатковыя й сярэднія школы ў Бабруйску, Мсьціслаўлі, Жодзішках, Слоніме, Сьніпішках каля Вільні, ды ў іншых місыйных пунктах.

Што датычыць структуры езуіцкага школьніцтва, то яна прадстаўлялася прыблізна наступна: Ніжэйшыя школы, адпаведнікі сярэднявечных „трывіум" падзеленыя былі на 5 або 6 клясаў ды займалі 6—8 гадоў навукі. Тут былі ступені: ніжэйшая, сярэдняя й вышэйшая, адпаведна да граматычнай этымалёгіі, сінтаксу й стылістыкі. апрача лацінскай мовы былі: грэцкая, беларуская мовы й пачаткі арытмэтыкі. У сярэдняй школе (супэр'ёра) навука займала 7 гадоў. Тут выкладаліся матэматыка з геамэтрыяй і стэрыамэтрыяй, лёгіка, літэратура, вышэйшая стылістыка, рыторыка. Курс філязофіі й тэалёгіі займаў 4 гады й ахапляў выклады філязофіі Тамаша з Аквіну з адхіленьнямі ў бок грэцкіх філёзафаў, сьв. Пісьмо ды гэбрайскую мову. Такім чынам поўны курс езуіцкага навучаньня займаў прыблізна 15 год напорнай навукі, гэта значыць час — сучаснай мадэрнай навукі...

Нічога дзіўнага, што гадунцы езуіцкіх школаў вырозьніваліся агульнай агладай, шліфоўкай мазгоў, грунтоўным валоданьнем чужых моваў, так клясычных, як мадэрных. Дадайма да гэтага й той клясавы факт, што ўсе школы езуіцкага тыпу былі школамі тыпу народных школаў, мадэрных ды нават агульна беларускіх.

*(Далей будзе)*

# Парафіяльнае Сьвята ў Ню Ёрку



*Катэдральны Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага ў Ню Ёрку.*

У нядзелю 6 травеня сёлета Парафія Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Ню Ёрку сьвяткавала сваё парафіяльнае сьвята.

На гэтую ўрачыстасьць прыехаў прат. а. Карп Стар настаяцель парафіі Сьв. Тройцы ў Дораты. Са сваімі парафіянамі прыехаў а. Александар Яноўскі, настаяцель парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд Парк і Сьвятар нашага Сабору а. Расьціслаў Войтэнка.

Службу Божую ачоліў прат. а. Карп пры саслужэньні а. Александра й а. Расьціслава.

Прыгожа сьпяваў хор пад кіраўніцтвам дырыгэнта Сп. Барыса Данілюка.

Служба закончылася прагалошаньнем многалецьця для нашых Уладыкаў, за Амэрыканскі Ўрад, за ўвесь Беларускі Народ на Бацькаўшчыне й на эміграцыі, за ўсіх парафіянаў Б.А.П.Ц. й за прысутных у Саборы.

Пасьля Службы Божае ўсе перайшлі да Царкоўнай салі на супольны банкет. Падчас абеду выступіў Старшыня Парафіяльнай Рады Сп. А. Міцкевіч – гаварыў аб значэньні царквы й традыцыяў у жыцьці беларускага народу, заклікаючы бацькоў перадаць іх сваім дзецям. Айцец Александар прывітаў прысутных са сьвятам і запрасіў усіх прыехаць на парафіяльнае сьвята ў Гайлэнд Парк 13 травеня. Айцец Карп прасіў усіх на парафіяльнае Сьвята да Дораты 17 чэрвеня. Сп. Шукелайц гаварыў аб супрацоўніцтве паміж БАЗА-ю й Царквою. Сп. Кіпель заклікаў усіх прыехаць на фэстываль 19 травеня.

На заканчэньне Сп. Данілюк прывітаў усіх Матак ад хору й Парафіяльнай Рады ў сувязі з „Днём Маткі", які прыпадае 13 травеня.

За багаты й смачны абед Парафіяльная Рада і ўсі прысутныя складаюць шчырую падзяку нашым гаспадыням: В. Заморскай, А. Курыло, Г. Орса й Спадарыням А. Русак, З. Груша й З. Кіпель.

*– Зіна Гарошка*

# УРАЧЫСТАСЬЦЬ У САДЗЕ

Я. ЮХНАВЕЦ

*(Працяг з 17-га нумару)*

наведаць, бо за вельмі кранае ейнае сумленьне быць тут, дзе гноем з кароўнікаў больш пахне, чымсьці возерам і лесам.

САМУК Вось дык надвор'е!.. (з позіркам на Яніну). А ўсёткі я кахаю яе!

ЯНІНА Ты адно й тое апавяданьне цьвярдзіш. (устае, падыходзіць да стала, адвольна раздзельвае даланёй даміно на стале; Самук пазірае; а тады, яна апіраецца рукамі на канты стала). Няўжо я ня вартая цябе?.. Ты памятаеш, як ратаваў мяне ад немцаў, навошта ратаваў? Маё ратаваньне абыйшлося шэсьць забітых людзей?

САМУК (паважна). Ты хоць і жанчына, але ў часе ліха была роўная мне!

ЯНІНА Сорам! Самы сапраўдны сорам! (склаўшы рукі на грудзі). Была роўная табе! А вось і не. Я перамагаць ня ўмела, але перамога дасталася мне таксама. (падыходзіць да Самука). Любы мой! Пятнаццаць год ужо мінула ад часу вайны, а ты яшчэ студэнт перад тым усім мінулым. (крыху цішэй). Валей быць расстрэлянай, чымсьці самагубствам канчаць дзеля Айчыны. Усе гэтыя вялікія, геніяльныя палкаводцы, за апраметнасьці крывавыя, не канчалі самагубствам.

САМУК (абыякава, але задумліва). Айчына для мяне – вечнае пакаленьне.

ЯНІНА (задумліва таксама). Усялякія ўражаньні й ахвярнасьці прыходзяць ад меры адчуваньня.

САМУК (бадай цьвяліста). Мне цяжка адчуваць свае адчуваньні!.. Але чаму ўсё гэта здарылася сяньня днём? Чаму? (устае; блізу прамоўна). Адчуваньні ніякіх ідэяў ня прыносяць! Адчуваньні – шыш, сапраўдны шыш! Ад якіх плачуць або захапляюцца – вось, прынамсі, як гэтым прыгожым сонцазаходам.

ЯНІНА (стаіць перад ім). Даражоны, ты ня памятаеш сваіх слоў – а яны цікавыя, як маё жыцьцё з табой. (лагодным усьмехам). Ты калісьці казаў: адчуваньні й уражаньні, ды й парываньні выкліканыя якім небудзь выпадкам патрабуюць заканчэньня ў розуме й патрэбе.

САМУК (адступае з за стала). І гэта таксама – шыш! (з дзяцінным азартам). Я сказаў, тады: калі ёсьць Бог, нараджаецца й памірае. Бог у вечным духу – значыць, гэта ёсьць людзі.

ЯНІНА (у яе таксама перамена настрою). Ты пасьля іншае, зусім іншае сказаў. (пакручвае галавой). Ужо час ажаніцца з табой, ты сказаў. (Самук пазірае на сялібу, азіраецца й Яніна; былая жонка ягоная выйшла з дому, і накіравалася вонкі сялібы). Сын выйшаў, сюды йдзе... (пахопна). Я пайду, выйду, выхады ведаю.

САМУК Тысячу раз цалую цябе.

ЯНІНА (адыходзячы). Дзякую! Я перавертнем для цябе ня буду. (Самук чакае сына).

САМУК (не азіраючыся на яе). Яніна, перастань клясьціся.

ДЗЕЯ 4–Я

*У тым самым месяцы як у 3-цяй дзеі. Толькі сонячнае сьвятло больш вячорнае. Даўгія сьцені ў садзе. Самук і сын стаяць побач стала.*

САМУК Сяньня ўжо не да шашак – позна. А заўтра паспрабуем. (стаўляе некалькі шашак на дошку). Я прысяду. (ідзе да крэсла дзе сядзеў раней). А ты можаш пастаяць – цэлы дзень, бадай, у хаце прасядзеў.

СЫН Сядзеў, хадзіў і нават падскокваў. (прысядае на скрай стала). Ты, тата, не хвалюйся. Усё добра было, і на далей астанецца добра... пра яе пагаворым потым.

САМУК Дзякую, сын! Ня дармо тваё імя Ўлада, Валадар... Згодзен, ня будзем пра яе. Але маму сваю мусіш называць мамай, а не пра яе!

СЫН Я мог сказаць гэтак таму, што ўтаміўся ад даўгой гутаркі з ёй. (Самук пытліва зірнуў на яго). Потым пра ўсё чутае ад мамы, пагаворым... (устае з скраю стала). Сяньня сьвята для цябе, і я хачу разам з табой весяліцца, і сьвяткаваць. (азірае прастор). У гэтым годзе нават надвор'е сьвяточнае...

САМУК (урывіста). ...Глядзі, як позна матылькі лётаюць.

СЫН Упяршыню чую: тата любіць матылькоў.

САМУК Ня толькі матылькоў, я заўсёды любіў прыроду. Але калі быў маладзейшым, прырода тады, для мяне, бвла ўсяго прыродай: прыгожа, цёпла, хвалява, сьцюдзёна. А цяпер я блізкі да яе. Калі баліць ампутаваная нага й раны на целе, мне ўяўляецца, што дрэвам, дзе атожыльле адрасло, таксама баліць.

СЫН Тата, і гэтая боль пакутная.

САМУК Часам, сын. Нават і сяньня, але сяньня я думаю, баліць на перамену надвор'я. (устае падыходзіць да сына). Я рад, што ты з мной, што вырас, уцалеў ад ліхалецьця вайны.

СЫН (кладзе руку на ягоны ўсплечак). Я вельмі добра памятаю, як у маразяную раніцу поўную выбухаў, ты нёс мяне пад шатамі засьнежаных ёлак, сьнег асыпаўся й кроў з шчакі тваёй крапала на маё аблічча, сьвірчалі кулі й асколкі... (вясёла). Адно цяпер, вырасьлым, я сьмяюся з маленскага ўражаньня: мне было ня страшна з табой, ты быў для мяне несьмяротным...

САМУК (сядае за стол, парабраў замашна даміно). Сяньня кажны ўспамінае мне – навошта?

СЫН Чаму гаворыш гэтак?

САМУК Бо ад успамінаў няма а ніякіх спадзеваў, і потым, навошта ўспаміны? Нядобрым успамінам месца ў кніжках, а ўспаміны сапраўдныя, пакутныя тлеюць разам з зьгінуўшымі... (захопна; у голасе больш цяплыні – ахвота пачаць дыскусію). Сын, прыйдзе час, мо праз 50 000 год калі людзі будуць ведаць толькі ўцеху працы. Нашчадкам нашым будзе дзіўна чытаць пра гераізм на вайне, пра медалі за хваробрасьць. У людзей будуць іншыя адчуваньні. Можа гэтак стацца калі ўсе на цэлым сьвеце будуць любіць толькі музыку, мастацтва, працу.

СЫН Але хтонебудзь захоча больш зямлі, больш прасторы – і вайна зноў.

САМУК Не-е! Людзі будуць ненавідзіць барацьбу. Будучае пакаленьня гэта спаборніцтва працы й вясёласьці, а ня войнаў.

СЫН Бакханаліі аджывуць – думаеш ты?

САМУК Не, сын! Не!.. Было-б добра каб ты навучаўся, можа дажывеш, не пракурорам працаваць, а... а-а...

СЫН (бы вясёла, бы паважна). Я можа паэтам, пісьменьнікам стануся. Ап'яю пачуцці вольныя ад страху вайны й нядолі, але поўныя сумленьня каханьня й працы, і назаву гэта адвечнасьцяй.

САМУК Адвечнага ніколі ня створыш, бо яно творыцца чалавекам. А тое што называе векавістасьцяй дык толькі таму што жывём нядоўга. Людзі любяць самахлусьню.

СЫН Вось ты насуперак сабе – і добра зрабіў. Бо каб сам Хрыстос будаваў якую небудзь дзяржаву, або зьдзейсьніваў надуманую ідэю, Ен бяз прыкрасьці не абыйшоўсяб. Вускрасіў-бы Лазара, добра паказаць боскую моц, а потым нічога не памятаць, што праз год ці пазьней гэты Лазар памрэ ў галечы, або ў новым рабстве.

САМУК Згодны з табой... Раней былі Гамлеты. Гордасьць і маленькую праўду сваёй сям'і абаранялі. Сучасны чалавек адзінотны, але за свой народ хвалюецца, й за іншыя народы. Кажны жадае будучае й для сябе й дзеля іншых...

СЫН (урыўна). Але ў Беларусі зашмат Гамлетаў, у гэтым ліку й я. (паўза).

САМУК (азірае сына). Я думаю, сын, ты яшчэ не прарыхтаваны да самастойнага жыцьця. Цябе затопчуць, прыніжуць хоць ты, твой бацька вялікі чалавек, заслужаны змагар.

СЫН Ад мамы чуў гэта. Але яна больш захопна агітавала мяне. (з усьмехам). Тата, яна прылічыла сябе да новай касты людзей дасяжная, культурная, а ўсе іншыя – гной-мужыкі, якія аруць зямлю й паміраюць за Айчыну на вайне. Далей баразны й магільнай ямы не адыходзяцца.

САМУК (слухаючы падыходзіць да ліпы). Напішу 15 год пасьля вайны. (ён напісаў крэйдай толькі 15, слухае сына).

СЫН Дзеля чаго вы любуецеся мінулай, або мінулымі войнамі?

САМУК Сын, любуемся сабой – уцалелі.

СЫН Гэта – эгаізм.

САМУК Каста любіць гэта... Усе мы пакорнікі адзін другога, але каста... каста мацнейшая – мы!.. Каста... (паўза, абыходзіць навокал ліпы). Сын, маці праўду казала, а можа й не... Пройдземся па садзе пагутарым.

ДЗЕЯ 5–Я

*Сонца зайшло. У тым самым месяцы як у папя-*

(працяг на 5-й бачынцы)